**Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь “Аб удасканаленні правапісу беларускай літаратурнай мовы”.**

Улічваючы пажаданні грамадскасці і прапановы дзяржаўных устаноў Рэспублікі Беларусь і беручы пад увагу меркаванне Камісіі па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб неабходнасці ўдакладнення існуючага правапісу беларускай літаратурнай мовы, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1. Стварыць Дзяржаўную камісію па ўдакладненню правапісу беларускай літаратурнай мовы ў складзе згодна з дадаткам.

Даручыць названай камісіі:

у 6-месячны тэрмін унесці ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прапановы аб удакладненні існуючага правапісу беларускай літаратурнай мовы;

падрыхтаваць новы звод правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі.

2. Да ўвядзення ў дзеянне новага зводу правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі строга прытрымлівацца Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі, зацверджаных Акадэміяй навук БССР і Міністэрствам асветы БССР (Выдавецтва Акадэміі навук БССР, Мінск, 1959).

3. Міністэрству фінансаў выдзеліць Акадэміі навук Беларусі для забеспячэння работы Дзяржаўнай камісіі па ўдакладненню правапісу беларускай літаратурнай мовы 3,5 млн. рублёў за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту, прадугледжаных на рэалізацыю Закона Рэспублікі Беларусь “Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь”.

*Першы намеснік Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М. Мясніковіч*

*Першы намеснік Кіраўніка Спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь А. Сакалоўскі*

17 жніўня 1993 г.
№ 556
г. Мінск

*Дадатак да пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 17 жніўня 1993 г. № 556.*

Склад Дзяржаўнай камісіі па ўдакладненню правапісу беларускай літаратурнай мовы

Гілевіч Н. С. – прафесар, старшыня Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны (старшыня камісіі)

Падлужны А. І. – член-карэспандэнт, дырэктар Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук Беларусі

Сухнат Л. К. – першы намеснік Міністра адукацыі (намеснік старшыні камісіі)

Яленскі М. Г. – кандыдат педагагічных навук, вучоны сакратар Інстытута адукацыі Міністэрства адукацыі (сакратар камісіі)

Булыка А. М. – доктар філалагічных навук, загадчык аддзела гісторыі беларускай мовы Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук Беларусі

Зуёнак В. В. – старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі

Клышка А. К. – пісьменнік

Крывіцкі А. А. – кандыдат філалагічных навук, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук Беларусі

Лемцюгова В. П. – доктар філалагічных навук, загадчык аддзела лексікалогіі і лексікаграфіі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук Беларусі

Лепешаў І. Я. – доктар філалагічных навук, прафесар кафедры беларускай мовы Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы

Малажай Г. М. – прафесар, загадчык кафедры беларускага мовазнаўства Брэсцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. С. Пушкіна

Міхневіч А. Я. – доктар філалагічных навук, прарэктар па навуковай рабоце Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моў

Навуменка І. Я. – акадэмік, саветнік Прэзідыума Акадэміі навук Беларусі

Сачанка Б. І. – галоўны рэдактар Беларускай энцыклапедыі імя П. Броўкі

Цыхун Г. А. – доктар філалагічных навук, загадчык аддзела славянскага і тэарэтычнага мовазнаўства Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук Беларусі, старшыня правапіснай камісіі Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны

Шакун Л. М. – доктар філалагічных навук, прафесар кафедры гісторыі беларускай мовы Беларускага дзяржаўнага універсітэта

Шуба П. П. – доктар філалагічных навук, загадчык кафедры рускай мовы Беларускага дзяржаўнага універсітэта

Янка Брыль – народны пісьменнік Беларусі

Яскевіч А. С. – доктар філалагічных навук, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі

Яўневіч М. С. – доктар філалагічных навук, загадчык кафедры беларускага мовазнаўства Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя М. Горкага

*Першы намеснік Кіраўніка Спраў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь А. Сакалоўскі*

[Збор пастаноў Урада Рэспублікі Беларусь. – 1993. – № 23 (95). – Арт. 458]